МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№10 (126)
кастрычнік 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ПАЭЗІІ ЯНКІ ЮХНАЎЦА АДБЫЛАСЯ

3 кастрычніка ў Кнігарні Галерэі "Ў" адбылася прэзентацыя кнігі эміграцыйнага паэта і пісьменніка Янкі Юхнаўца "Паэзія".

*Працяг на стар. 3*

### ЖНІВЕНЬСКАЕ ЗАЦІШША

У сваім допісе Алег Рудакоў расказвае пра тое, які працяг меў красавіцкі інцыдэнт для ІТБК, калі арганізацыю беспадстаўна абвінавацілі ў экстрэмізме, а таксама пра іншыя жнівеньскія падзеі Таварыства.

*Працяг на стар. 4*

### ВЕРАСНЁЎСКІЯ БУДНІ Ў ТБК ЛІТВЫ

У апошнюю суботу верасня ў ТБК адбылося чарговае мерапрыемства. Яно было прысвечана тым беларускім дзеячам, якія спрычыніліся да развіцця беларускай культуры, мовы, станаўлення дзяржаўнасці.

*Працяг на стар. 5*

### ВА УРОЦЛАВЕ ПРАЙШЛІ ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

На мерапрыемстве выступілі Лявон Вольскі, Віктар Шалкевіч, гурт "Рэха" і іншыя.

*Працяг на стар. 6*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## НАВУКОВАЕ КАФЭ Ў РНТБ

"Барыс Уладзіміравіч Кіт – першы беларус у свеце" – пад такой назвай 25 кастрычніка 2012 года прайшло навуковае кафэ ў Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэцы. Яно ладзілася ў межах праекту "Беларускія імёны ў сусветнай навуцы і тэхніцы", прысвечанага вучоным-беларусам, якія зрабілі значны ўнёсак у развіццё чалавецтва: адкрыцці ў галіне фізікі, хіміі, медыцыны, тэхнікі, авіябудавання, геалогіі, будаўніцтва ды інш. Арганізатары мерапрыемства – Дзяржаўны камітэт па навуцы і тэхналогіях Рэспублікі Беларусь і Рэспубліканская навукова-тэхнічная бібліятэка (РНТБ).

На гэтым мерапрыемстве прысутнічаў прадстаўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". У фонды РНТБ былі перададзеныя некалькі асобнікаў кнігі "Зорны шлях: да 100-годдзя Барыса Кіта", выдадзенай летась Згуртаваннем сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве "Кнігазбор".

Дырэктар РНТБ Раіса Нікандраўна Сухарукава, адкрываючы імпрэзу, паведаміла, што навуковыя кафэ ў РНТБ ладзяцца з 2007 года і зрабіліся ўжо традыцыйнымі. Ранейшыя навуковыя кафэ былі прысвечаныя Якаву Наркевічу-Ёдку, Аляксандру Чыжэўскаму, Аляксандру-Ізідору Скірмунту, Ігнату Дамейку і Зігмунту Мінейку.

Пасля прагляду дакументальнага фільма "Зорнае прыцягненне" (рэж. Мікалай Князеў) загадчык сектара аддзела камунікацый і інфармацыі па ўстойлівым развіцці РНТБ Хрысціна Чарняўская перадала слова прысутным гасцям.

Першай выступіла настаўнік гісторыі СШ №1 г. Навагрудка, кіраўнік клуба "Айчына" Тамара Сулейманаўна Галушка. У будынку гэтай школы раней працавала Навагрудская беларуская гімназія, выпускніком, а пасля і дырэктарам якой быў Барыс Кіт. Тамара Сулейманаўна расказала, што сябры школьнага клуба "Айчына" рупліва збіраюць матэрыялы, прысвечаныя Барысу Кіту, а таксама вядуць з ім перапіску. У 2000 годзе на сцяне школы была ўсталяваная мемарыяльная шыльда, прысвечаная Барысу Кіту, ганароваму грамадзяніну Навагрудка з 1994 года. У 2008 годзе ў школе адкрыўся музей імя Барыса Кіта.



Пісьменнік Васіль Якавенка расказаў, як адбылося яго знаёмства з Барысам Уладзіміравічам. У 2003 годзе ў Васіля Цімафеевіча выйшаў раман "Надлом", прысвечаны героям даваеннага, ваеннага і пасляваеннага часу, дзе была паказаная беларуская эміграцыя, а таксама тое, як жылося беларусам пад акупацыяй. Аўтар, даведаўшыся, што ў Нямеччыне жыве Аніта Кубэ, жонка гаўляйтара Кубэ, вырашыў выбрацца да яе і сабраць новыя матэрыялы. Таксама, прачытаўшы ўспаміны Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым, Васіль Цімафеевіч вырашыў, што гэты герой мусіць таксама быць у яго рамане. Гэты новы раман атрымаў назву "Пакутны век", але ён як бы расклаўся на тры часткі, і ў выніку атрымалася трылогія.

Знайшоўшы адрас Аніты Кубэ, Васіль Якавенка выправіўся ў Германію. Выявілася, што ад яе да Барыса Кіта не так і далёка, каля 180 кіламетраў. Барыс Уладзіміравіч сустрэў пісьменніка на вакзале. Васіль Якавенка апісаў яго прыветлівым, прыязным, абыходлівым чалавекам, які вельмі імпазантна выглядаў. Другі раз Васіль Якавенка ездзіў да Барыса Кіта пасля выхаду рамана ў 2006 годзе, калі перапрацоўваў раман. У выніку праз тры гады выйшла новае, больш поўнае выданне.

Васіль Цімафеевіч расказаў пра такі

факт, што ў 1992 годзе Кіт хацеў стварыць у нас у Беларусі Нацыянальны ўніверсітэт з філіяламі і нават пачаў збіраць грошы, пачаў працу над гэтым праектам, аднак не склалася.

Пасля выступу Васіля Якавенкі быў наладжаны відэамост з Іванам Коўзелем, навуковым супрацоўнікам Інстытута гігіены ў Мюнстэры. Ён расказаў, што ўпершыню сустрэўся з Барысам Кітом у сакавіку 2012 года ў Франкфурце-на-Майне, і той выявіўся вельмі цікавым суразмоўцам. 1–2 снежня Іван Коўзель плануе чарговую сустрэчу з ім і пры нагодзе зможа ўзяць у яго аўтографы для фондаў РНТБ.

Наступным выступаў паэт Сяргей Законнікаў, які адзначыў, што Барыс Кіт займае асаблівае месца ў нацыятворчым працэсе і з'яўляецца прыкладам патрыёта, нягледзячы на тое, што шмат часу пражыў за мяжой. Урокі матэматыкі ён пачынаў з паэзіі. "Для мяне ён сімвал таго, якім павінны быць беларус. Зыходзячы з гэтага, я напісаў прысвечаную яму паэму "Праз церні да зораў", – сказаў Сяргей Законнікаў.

Канстанцін Іванавіч Баландзін, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Рэспубліканскага інстытута інавацыйных тэхналогій, браў слова наступным. Канстанцін Іванавіч у свой час напісаў вучэбна-метадычны дапаможнік "Зоркі беларускай тэхнічнай навукі". Ён адзін з першых, хто зацікавіўся праблемай вяртання гістарычных імёнаў на нашу Радзіму, многія з якіх увайшлі ў гісторыю іншых краін і народаў, а ў Беларусі пра іх мала што ведаюць. Спадар Баландзін зазначыў, што ініцыятыву РНТБ можна толькі вітаць, бо гэтыя важныя для нас імёны трэба вяртаць. "У нас усё было і ўсе былі, толькі мы, на жаль, пра гэта мала ведаем, – сказаў Канстанцін Іванавіч. – У нас шмат першаадкрывальнікаў, пра якіх ведаюць у іншых краінах, але не ведаюць у нас. Мы павінны падкрэсліваць наш прыярытэт, калі ён сапраўды ёсць, хопіць непатрэбнай сціпласці".

Раіса Нікандраўна Сухарукава пагадзілася з гэтым і расказала пра тое, што РНТБ вядзе вялікую працу па пошуку такіх забытых імёнаў. На сайце бібліятэкі ёсць базы дадзеных "Беларускія імёны ў навуцы і тэхніцы" і "Вынаходнікі Беларусі". Раім усім пазнаёміцца з імі.

Галіна Іванаўна Шостак, вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі, пачынаючы выступ, заклікала прысутных успомніць Лідзію Савік, якая не змагла прысутнічаць на навуковым кафэ, хоць вельмі жадала трапіць на яго. Яна адна з першых, хто фактычна адкрыў імя Барыса Кіта для беларусаў. Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі пачаў збіраць дакументы пра Барыса Кіта ў пачатку 1990-х, тады ж пачаў з ім перапіску. Некаторыя дакументы з архіва былі прадстаўленыя на стэндзе навуковага кафэ.

Апошняй выступала Таццяна Каліноўская, журналіст газеты "Беларусы і рынак". Яна падзялілася ўражаннямі ад знаёмства з Барысам Кітом.

"Пачалося ўсё ў 1994 годзе, – расказала яна. – Тады мала хто з беларусаў быў за мяжой, а тут мой муж Валер, супрацоўнік газеты "Звязда", атрымаў запрашэнне ў Страсбург на сесію Рады Еўропы. Асоба Кіта зрабіла на яго моцнае ўражанне. Яны адразу спадабаліся адзін аднаму і пасябравалі. Падчас той сустрэчы Барыс Уладзіміравіч прапанаваў Валеру стаць рэдактарам кнігі Савік "Космас беларуса" і яе выдаўцом. Гэтая агульная праца з кнігай іх моцна звязала.

У 1995-м я ўпершыню сустрэла Барыса Уладзіміравіча. Я была вельмі ўражаная, што такія людзі існуюць на свеце. Ён настолькі многа бачыў і ведаў, расказваў такія рэчы з 1939-га года, прычым тое, што сам прайшоў… Расказваў пра Беларусь пад акупацыяй, пра свой лёс.

Мяне захапляе яго жыццяздольнасць. Я наведвала яго, калі нас зноў запрасілі ў Германію пасля Плошчы ў 2006-м, ён тады моцна хварэў, былі праблемы з пазваночнікам, і я бачыла, у якім ён стане. Я вельмі баялася за яго, але праз тыдні тры ён пазваніў нам дадому і сказаў майму мужу: перадай Тані, што я паправіўся, хай не хвалюецца.

Я наведваю яго, дзе б у Германіі ні спынялася, любымі шляхамі еду да яго. Мы наведвалі яго напярэдадні стогадовага юбілею. На развітанне ён даў мне матэрыялы аб сваім сыне Вальтэры, які працаваў намеснікам міністра НАСА. Ён таксама выбітны навуковец, мае дзве магістарскія адукацыі. На жаль, за некалькі месяцаў да стагоддзя Барыса Уладзіміравіча ён памёр. Барыс Кіт сказаў, што яго сын, можа быць, больш дасягнуў у навуцы, чым ён, і папрасіў, калі тут будуць ушаноўваць яго, каб ушанавалі і сына, які нарадзіўся таксама на Беларусі, у Лебедзеве".

Напрыканцы прамовы Таццяна Каліноўская падарыла РНТБ здымкі з сямейнага альбома з Барысам Кітом.

Закрываючы сустрэчу, Раіса Нікандраўна Сухарукава паведаміла, што нядаўна выпадкова стала вядома, што сярод супрацоўнікаў РНТБ ёсць стрыечная ўнучка Барыса Кіта. Хрысціна Чарняўская падзякавала ўсім на развітанне і выказала спадзяванне на новыя сустрэчы і цікавыя дыскусіі на наступных навуковых кафэ.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў лістападзе: Станіслава Акінчыца (Беларусь), Анатоля Вярцінскага (Беларусь) і Вячаслава Логіна (ЗША). Зычым шчасця, здароўя, дабрабыту і натхнення!

У лістападзе наступныя сябры Вялікай Рады святкуюць юбілеі: 11 лістапада – Алена Нарушэвіч (Латвія), 20 лістапада – Юрась Меляшкевіч (Беларусь), 27 лістапада – Генадзь Вінярскі (Беларусь).

Шчыра віншуем шаноўных юбіляраў са святам, зычым радасці, плёну ў працы, бадзёрага настрою і добрага здароўя!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

АБВЕСТКА

## НОВАЯ ВЭБ-СТАРОНКА «БЕЛАРУСЫ АЎСТРАЛІІ»





Шчыра запрашаем наведаць вэб-старонку пра беларусаў Аўстраліі:

***http://www.pf12.org/index_belozzi.php***

*Віктар Кавалеўскі,*
*Адэлаіда*

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ПАЭЗІІ ЯНКІ ЮХНАЎЦА АДБЫЛАСЯ

3 кастрычніка ў Кнігарні Галерэі "Ў" адбылася прэзентацыя кнігі эміграцыйнага паэта і пісьменніка Янкі Юхнаўца "Паэзія", што нядаўна пабачыла свет ў серыі "Галасы Айчыны" выдавецтва "Лімарыус".

Ва ўтульнай невялікай залі сабралася каля 30 чалавек. Вяла прэзентацыю я сама, паколькі маю непасрэднае дачыненне да выдання гэтай кнігі. Спачатку я распавяла пра аўтара, ягоны жыццёвы ды творчы шлях, ды гісторыю з'яўлення самой кнігі, укладзенай беларускім архівістам і літаратуразнаўцам з ЗША Лявонам Юрэвічам. Апошні добра ведаў Янку Юхнаўца і мэтанакіравана збіраў ягоную спадчыну.



Генадзь Бураўкін

Далей выступаў Генадзь Бураўкін, які пазнаёміўся з эміграцыйным літаратарам у часе свайго побыту ў ЗША ў якасці прадстаўніка Беларусі ў ААН. Ён падзяліўся сваімі ўспамінамі-ўражаннямі ад спатканняў з Янкам Юхнаўцом, казаў пра тое, што гэтае знаёмства пачалося з таго, як высветлілася, нібыта сваяк Юхнаўца працаваў на нейкай міністэрскай пасадзе ў БССР, і пісьменнік не хацеў гэта афішаваць, каб не нашкодзіць нікому. Генадзь Бураўкін дзяліўся ўражаннямі ад творчасці літаратара, казаў, што ў ягонай мове шмат незразумелага, але гэта выходзіла ў Юхнаўца зусім натуральна, бо ён нічога адмыслова не выдумляў, ён так жыў, так думаў. Таксама было сцверджана, што сам Юхнавец наўрад ці б паверыў, што магчымае будзе вось гэткае выданне, і што насамрэч выданне вельмі важнае для беларускай літаратуры.

Уладзімір Арлоў расказаў пра тое, як рыхтавалася першае выданне твораў Янкі Юхнаўца ў Беларусі ў 1993 г. Цікава, што яму хацелі даць назву "Шорах моўкнасці", як называўся першы эміграцыйны зборнік творцы. Але кіраўніцтва выдавецтва сцвердзіла, што такіх словаў у беларускай мове няма і таму такой назвы быць не можа. Так і атрымаліся "Сны на чужыне".

Пасля выдання кнігі Уладзімір Арлоў змог спаткацца з Янкам Юхнаўцом, падараваць яму асобнік, распавесці пра абставіны выдання.

Уладзімір Арлоў распавядаў пра свае спатканні і ліставанне з Юхнаўцом, кажучы, што стаўленне да творцы на эміграцыі было крыху паблажлівае, бо ён быў як бы сам па сабе, у сваім паралельным свеце.

Напрыканцы выступу Уладзімір Арлоў прачытаў уласны верш, прысвечаны Янку Юхнаўцу.

Працягам аповеду Валярына Кустава прачытала некалькі вершаў Янкі Юхнаўца. Папярэдне яна зазначыла, што акторы Купалаўскага тэатра адмовіліся чытаць гэтыя вершы, матывуючы тым, што яны не ведаюць гэткае мовы і не ведаюць, як гэта чытаць. У Валярыны атрымалася вельмі дарэчна і арганічна. Можна сказаць, я ўпершыню пачула, як сапраўды можна чытаць Юхнаўца для публікі.

Працягам вечару быў вельмі цікавы і эмацыйны выступ Змітра Саўкі. Ён пачаў з таго, што Юхнаўца называюць маргіналам, графаманам ды вар'ятам. І ўсе тры меркаванні ў нейкай ступені адпавядаюць рэчаіснасці, бо, як своеасаблівы маргінал, Юхнавец заўсёды трымаўся недзе ўбаку, асобна і ў літаратуры, і ў жыцці. Як графаман, Юхнавец проста не мог не пісаць і ў яго гэта атрымлівалася абсалютна натуральна. І як вар'ят, Юхнавец жыў у сваім нейкім паралельным свеце, а ягоныя творы – выдатная крыніца для псіхалінгвістыкі.



Уладзімір Арлоў

Зміцер Саўка распавёў таксама пра ўласнае знаёмства з Янкам Юхнаўцом, якое адбылося дзякуючы Лявону Юрэвічу. Згадаў, як Юхнавец наракаў на закіды на свой адрас адносна незразумеласці мовы. Аднак гэта не было нейкае ягонае моўнае эксперыментатарства, гэта частка ягонай натуры. І ў выніку ягоныя вершы ўспрымаюцца, разумеюцца недзе на падсвядомым ўзроўні.

Працягам літаратуразнаўчай размовы адносна творчасці Янкі Юхнаўца стаў выступ Ціхана Чарнякевіча, які заўважыў пэўны ўплыў на літаратара іншага эміграцыйнага пісьменніка Масея Сяднёва, згадаў пра некаторую эвалюцыю аўтарскага стылю ад першага паэтычнага зборніка да апошніх твораў. Казаў пра тое, што Юхнавец свядома разбураў нейкія рамкі, выходзіў за межы літаратурных формаў ды канонаў, і ў гэтым таксама ягоная ўнікальнасць.

У пацвярджэнне словаў літаратуразнаўцаў Валярына Кустава прачытала яшчэ некалькі твораў Янкі Юхнаўца.

Працягнуў успаміны пра Янку Юхнаўца Сяргей Панізнік, які яшчэ ў 1990 г. пазнаёміўся з эміграцыйным пісьменнікам і атрымаў ад яго асобнікі першых зборнікаў "Шорах моўкнасці" ды "Калюмбы". Гэтыя кнігі Сяргей Панізнік дэманстраваў на прэзентацыі, як і здымкі з Янкам Юхнаўцом. Спадар Сяргей быў здзіўлены, калі ўбачыў, што адзін з гэтых здымкаў трапіў на ўклейку прэзентаванага выдання.



Аляксандр Фядута

Завяршыў прэзентацыю каардынатар кніжнай серыі Аляксандр Фядута, які распавёў пра складаныя абставіны выдання кнігі. Параўнаў Юнку Юхнаўца з расійскім паэтам Велімірам Хлебнікавым. Паабяцаў у будучыні вярнуцца да выдання творчай спадчыны Янкі Юхнаўца, а менавіта ягонай прозы і драматургіі. А таксама распавёў пра выдавецкія планы серыі "Галасы Айчыны" ды ўсяго "Лімарыуса".

Агульнае ўражанне ад прэзентацыі засталося вельмі пазітыўным. Цікавыя аповеды, вершы, сяброўская атмасфера.

Шкада толькі, што не было прафесійных фатографаў, таму я сама мусіла рабіць хоць нейкія здымкі, каб засталася памяць пра падзею.

Мне здаецца, што сам Янка Юхнавец парадаваўся б такой прэзентацыі. Шчыра дзякую ўсім удзельнікам.

*Наталля Гардзіенка,*
*hardzin.livejournal.com*

# ЖНІВЕНЬСКАЕ ЗАЦІШША

**У сваім допісе Алег Рудакоў расказвае пра тое, які працяг меў красавіцкі інцыдэнт для ІТБК, калі арганізацыю беспадстаўна абвінавацілі ў экстрэмізме, а таксама пра іншыя жнівеньскія падзеі Таварыства. Нагадаем, што ў красавіку ў кватэру старшыні Таварыства Алега Рудакова, а таксама ў сядзібу гэтай арганізацыі ўварваліся супрацоўнікі Следчага ўпраўлення Следчага камітэта Расіі па Іркуцкай вобласці з падтрымкай СОБРа і спецназа. Пра гэта мы ўжо пісалі ў бюлетэні "Беларусы ў свеце" № 3–4.**

**Алег Рудакоў піша:**

Жнівень месяц для Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага (ІТБК) традыцыйна з'яўляецца адпускным. Праўда, гэта не значыць, што ўсе актывісты ІТБК адправіліся ў адпачынак. Акурат не: шмат хто быў на сваіх "працоўных пастах". Але вось мерапрыемстваў мы ніякіх не арганізоўвалі. І сяброў нашага Таварыства не трывожылі.

Наогул у жніўні можна вылучыць дзве значныя падзеі ІТБК. Першая сумная, другая вясёлая.

Сумнай падзеяй было тое, што 6 жніўня ў Кастрычніцкім судзе горада Іркуцка разглядалася грамадзянская справа, дзе мы ад імя ІТБК падалі іскавую заяву аб абароне дзелавой рэпутацыі нашай арганізацыі.

У № 117 "Маланкі" мы падрабязна пісалі, як 12 красавіка 2012 года наш офіс зператрусам наведала Следчае ўпраўленне Следчага камітэта Расіі па Іркуцкай вобласці (СУ СК). Усё б нічога, але гэтае ж СУ СК апублікавала на сваім сайце 16 красавіка прэс-рэліз, дзе ў прыватнасці было сказана: "...у офісе "Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага" канфіскаваныя матэрыялы экстрэмісцкага зместу, выявы лідараў беларускіх нацыяналістаў, якія ваявалі на баку фашысцкай Германіі супраць савецкіх войскаў і ажыццяўлялі карныя дзеянні супраць насельніцтва".

А крыху вышэй у гэтым жа прэс-рэлізе гаварылася: "...распачата крымінальная справа ў дачыненні да аднаго з кіраўнікоў моладзевага клуба "Крывічы"... Яму прад'яўлена абвінавачванне ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч.1 арт.282 КК РФ (распальванне нянавісці альбо варожасці, а таксама зневажанне чалавечай годнасці)".

Адным словам, ні даць ні ўзяць раскрылі «змяінае гняздо» нацыяналістаў і экстрэмістаў, прычым не якіх-небудзь там, а беларускіх!

Гэтая заява спрацавала як інфармацыйная бомба. Практычна ўсе СМІ нашага рэгіёна, многія расійскія і нават некаторыя замежныя газеты, электронныя сайты, радыё і тэлеканалы з рознай ступенню каментароў з шумам распавялі пра гэта.

У прыватнасці, газета "Комсомольская правда Иркутска" 18 красавіка 2012 года ў рубрыцы "Папаўся" апублікавала артыкул "Лідар моладзевага руху абвінавачваецца ў экстрэмізме".

Вядома, мы з гэтакай пастаноўкай пытання пагадзіцца не маглі і падалі ў суд на газету і Следчае ўпраўленне, бо мы былі перакананыя, што 16 гадоў бескарыслівай грамадскай працы дзеля развіцця дружбы паміж рускім і беларускім народамі павінныя былі сказаць за сябе. Асабіста я як Старшыня ІТБК быў узнагароджаны якраз за гэта і беларускім урадавым медалём Францыска Скарыны ў 2010 годзе, а раней Ганаровай граматай Міністэрства Рэгіянальнага развіцця Урада Расіі, Ганаровай граматай губернатара Іркуцкай вобласці. Воля Галанава як Старшыня Моладзевага клуба "Крывічы", Алена Сіпакова як Старшыня Іркуцкага гарадскога аддзялення ІТБК і многія іншыя нашыя актывісты таксама маюць шэраг граматаў і падзяк як ад расійскіх уладаў, так і ад беларускіх.

Але аказваецца, усё гэта "не лічыцца". Аказваецца, мы рабілі добрыя справы, каб замаскіраваць сваю "сутнасць". А насамрэч мы былі "таемнымі экстрэмістамі", і вось доблесныя супрацоўнікі СУ СК, і ў першую чаргу следчы Панамарчук В.А. і прэс-сакратар СУ СК Салавараў В.Н. выкрылі-такі "нягоднікаў"...

Але вернемся да 6 жніўня. У гэты дзень суддзя Кастрычніцкага раённага суда г. Іркуцка Хіжаеў А.Ю. "Іменем Расійскай Федэрацыі" ўстанавіў, што... усё было "правільна", і ў позве нам адмовіў!

Хоць у ходзе судовага пасяджэння было шмат "дзіўных" неспадзяванак. Прывяду прыклады.

Мы кажам, што ніякіх экстрэмісцкіх матэрыялаў у офісе ІТБК не было і быць не магло. Больш за тое, наш адвакат, спасылаючыся на Закон РФ, гаворыць: "... каб не канфіскавалі ў офісе ІТБК, толькі суд мае права вызначыць, ці з'яўляюцца дадзеныя матэрыялы экстрэмісцкімі, ці не!" Таму на якой падставе Беларусі СК выдае такі прэс-рэліз, які ўжо, як "прысуд", ставіць нас у ролю "злачынцаў"?

Нам адказваюць, маўляў, у вас у офісе была канфіскаваная кніга "Удар рускіх Багоў", якая ўжо маецца ў Федэральным спісе экстрэмісцкіх матэрыялаў. У мяне вочы на лоб! Што за кніга? Я такой нават не бачыў ніколі! Падымаюць Пратакол ператрусу, дзе пералічана ўсё канфіскаванае – няма такой кнігі! Прадстаўнікі Беларусі СК у судзе ў разгубленасці.

Але тут жа парыруюць: у вас у офісе, маўляў, па ўсёй зале былі развешаныя А4 фармату календары беларускіх нацыяналістаў-перабежчыкаў, якія ваявалі на баку фашыстаў. І тут жа паказваюць суддзі фота. Я гляджу, і ў мяне зноў вочы лоб! Так, па-першае, гэта фота фатаграфій А3 фармату, а па-другое на гэтых фота, што вы паказваеце, намаляваныя Васіль Быкаў, Янка Купала, Якуб Колас і іншыя класікі беларускай літаратуры, агульнапрызнаныя ва ўсім свеце. А канфіскаваныя ў нас у офісе былі пяць маленькіх кішэнных каляндарыкаў, на якіх былі намаляваныя дзеячы розных часоў. Так, пісьменнік Алесь Гарун і генерал царскай арміі Булак-Балаховіч нават не дажылі да Вялікай Айчыннай вайны. Яны нават не ведалі, хто такія фашысты! Трое іншых: Франц Кушаль, Кастусь Езавітаў і Іван Гелда сапраўды падчас ВАВ першапачаткова супрацоўнічалі з нямецкімі ўладамі. Але чаму? Па-першае, усе трое пацярпелі ад бальшавікоў, сядзелі ў турмах. Падругое, пры падзеле Беларусі на Савецкую і Польскую яны засталіся ў Заходняй Беларусі і, адпаведна, грамадзянамі Савецкага Саюза не былі, а значыць, яны не маглі быць перабежчыкамі, г.зн. здраднікамі. Па-трэцяе, супрацоўніцтва з немцамі насіла часовы характар, усе трое дбалі за адраджэнне Беларускай незалежнай дзяржавы. Па-чацвёртае, што вельмі важна, ніводзін з іх не браў удзелу ў "карных дзеяннях супраць насельніцтва"! Менавіта таму Франц Кушаль, напрыклад, дажыў да нашых дзён у Амерыцы і ніхто ніколі яму ніякіх абвінавачванняў не прад'яўляў! Больш за тое, ён нават узначальваў некаторы час Беларускае таварыства ў ЗША, а яго жонка Наталля Арсеннева зрабілася вядомай беларускай паэткай, якая ў тым ліку напісала духоўны гімн усіх беларусаў "Магутны Божа". У самой Беларусі на Дзяржаўным узроўні праходзіць фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа"!

І, нарэшце, апошняе. У мяне сабраная калекцыя каляндарыкаў, якіх больш за 90 штук. Яны ўсе розныя. Мне як гісторыку цікавы лёс Беларусі. Таму на маіх дзвярах з унутранага боку побач вісяць каляндарыкі царскага генерала беларуса Казарскага – героя Севастопальскай бітвы, Ефрасінні Полацкай – першай беларускай праваслаўнай святой, Васіля Быкава – беларускага класіка, які ваяваў супраць фашызму. Дык за што я агітую?

Я задаў прамое пытанне прадстаўнікам Беларусі СК: "Якое дачыненне гэтыя каляндарыкі маюць да экстрэмізму?" На што атрымаў адказ: "Ніякага..." ➲

І тут жа мне парыравалі: а вось наш эксперт, дацэнт кафедры Сучаснай айчыннай гісторыі Іркуцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Вогнішчаў Аляксандр Валер'евіч зрабіў заключэнне, што ў гэтых каляндарыках "змяшчаецца прапаганда беларускага нацыяналізму і заахвочваюцца тэрарыстычныя дзеянні беларускіх нацыяналістаў часоў Другой сусветнай вайны".

Во як! Ні ў жыцці б да такога не дадумаўся. Я прасіў суд далучыць да справы экспертнае заключэнне А.В. Пашкевіча – кандыдата гістарычных навук з Мінска, які прысвяціў шматлікія свае навуковыя пошукі гэтаму перыяду і меў зусім іншае меркаванне пра гэтых людзей з "каляндарыкаў". Але суддзя Хіжаеў А.Ю. не звярнуў на гэта ніякай увагі. Вось так і атрымалася...

Здавалася б, відавочныя рэчы. І я, разам са сваім адвакатам, выступаў цалкам пераканаўча. Нашыя "праціўнікі" перыядычна бянтэжыліся, маўчалі і не ведалі, што адказаць. Іх юрыст нават прасіў суд перанесці пасяджэнне на іншы дзень, каб яны маглі падрыхтавацца. Але суддзя настойваў: трэба скончыць тут і цяпер! (І наогул, яму трэба было сыходзіць у адпачынак.)

І вось, нягледзячы на ўсе нашыя старанні... суддзя ўзяў бок Следчага камітэта. Усе нашыя намаганні былі марныя... Іркуцкія следчыя і адданыя ім іркуцкія гісторыкі разбіраюцца больш у гісторыі нашага народа, чым мы, беларусы, нават чым наша краіна ў цэлым.

Дарэчы, мы атрымалі мноства лістоў падтрымкі, у тым ліку і ад афіцыйных установ Беларусі і Пасольства РБ у РФ. Так што маральна мы перамаглі! А вось фактычна мы...

Аднак мы будзем працягваць змагацца. Мы падаем позву ў Абласны суд!

Цяпер пра вясёлае!

З 9 па 16 жніўня ў нас у Іркуцку гасцяваў навуковец з Цюмені – Раман Фёдараў.

Уласна, тое, што ён вучоны, для нас мала што значыць. А вось тое, што ён наш суродзіч і досыць актыўна прасоўвае "беларускую тэму" ў Заходняй Сібіры – гэта ўжо дарагога вартае!

Вядома, ён прыехаў не проста ў госці. Яму захацелася для сваіх гістарычных прафесійных даследаванняў разабрацца хоць бы першапачаткова ў перасяленні нашых продкаў ва Усходнюю Сібір. А паколькі пра нас ён чуў ужо даўно, дык і звярнуўся па дапамогу менавіта да нас у ІТБК. Мы, безумоўна, любому нашаму земляку вельмі радыя.

Сустрэлі як след, прывезлі ў гасцініцу, арганізавалі яму экскурсіі па горадзе.

А 10 жніўня была выдатная сустрэча Рамана з нашым актывам у офісе ІТБК на Чэхава, 2. Выявілася, што Раман досыць тavарыскі. Ён нам распавёў шмат неверагодных, часам нават пацешных гісторый. Перш за ўсё, ён расказаў пра свае беларускія карані, потым пра свой досвед этнаграфічных даследаванняў, ну і, нарэшце, некалькі жыццёвых сітуацый. Час за гутаркай і кубкам гарбаты праляцеў незаўважна.

А 11 жніўня мы павезлі Рамана Фёдарава ў нашыя найбліжэйшыя беларускія вёскі: Тургенеўку і Талстоўку, якія месцяцца на поўнач ад Іркуцка ў Баяндаеўскім раёне (130 км. ад горада). Пасялілі мы Рамана ў Тургенеўцы ў сям'і актывісткі нашага Таварыства Маргарыты Асечкінай.

Па вяртанні з вёсак Раман сказаў, што застаўся вельмі задаволены сваёй паездкай і абяцаў даслаць артыкул паводле яе вынікаў. Чакаем. І абавязкова апублікуем у нашым бюлетэні.

Ну а развіталіся мы з Раманам неахвотна. Заўсёды прыемна, калі да нас прыязджаюць госці-аднадумцы, якія імкнуцца з усіх сілаў адраджаць і развіваць беларускую гістарычную спадчыну ў Сібіры.

Спадзяемся, што Раман яшчэ да нас прыедзе. А яго цяперашняя паездка паслужыць яму новым матэрыялам для яго даследаванняў.

Вось такія дзве падзеі адбыліся ў жніўні.

Вядома, не густа, але восень павінна быць "больш гарачай".

*Алег Рудакоў*

## ВЕРАСНЁЎСКІЯ БУДНІ Ў ТБК ЛІТВЫ

У апошнюю суботу верасня ў ТБК адбылося чарговае мерапрыемства. Яно было прысвечана тым беларускім дзеячам, якія спрычыніліся да развіцця беларускай культуры, мовы, станаўлення дзяржаўнасці.

На сустрэчы прысутнічалі госці з Працоўнай Партыі Літвы: Вілія Філіпавічэне і Іван Філіповіч.

Вілія Філіпавічэне – намеснік старшыні партыі (кіраўнік Віктар Успаскіх), старшыня аддзела Партыі Працы (Darbo Partija) Вільнюскага раёна, член савета Вільнюскага раёна.

Вілія нарадзілася ў 1959 годзе ў Іркуцку ў сям'і рэпрэсаваных літоўцаў. У 1965 сям'я вярнулася ў Вільню. З 2005 года ў Партыі Працы. Была прызначаная старшынёй партыі ў Шальчынінкайскім раёне. Вынікам яе працы ёсць адно з лідзіруючых месцаў партыі ў рэгіёне.

Вілія вызначыла асноўныя моманты партыйнай праграмы, распавяла пра расстаноўку палітычных сілаў у Вільнюскім раёне, узгадала праблемы рэгіёна і вызначыла асноўныя кірункі вырашэння актуальных пытанняў

Іван Філіповіч – старшыня Партыі Працы Шальчынінкайскага раёна – распавёў пра перспектывы развіцця партыі ў Шальчынінкайскім раёне і стратэгію партыі на цяперашніх выбарах.

Далей Алесь Адамковіч расказваў пра творчасць Максіма Танка і зачытаў некалькі вершаў паэта.

Максім Танк – адно з самых яркіх імёнаў у гісторыі беларускай літаратуры. Паэт-бунтар, паэт-патрыёт, паэт-сатырык, паэт-філосаф, паэт-наватар… А па жыцці – надзвычай сціплы чалавек, які не любіў гучных словаў. Паэзія Максіма Танка ўражвае разнастайнасцю тэмаў, вобразаў, формаў, творчым засваеннем нацыянальнай паэтычнай традыцыі і наватарствам. А галоўная тэма, якая праходзіць праз усю творчасць М. Танка, – Радзіма ў самых розных яе праявах.

У верасні споўнілася 189 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі. Пра яго творчасць і жыццёвы шлях распавёў Зміцер Карачун. Сапраўднае імя Уладзіслава Сыракомлі – Людвік Францішак Уладзіслаў Аляксандравіч Кандратовіч. Беларускі паэт, публіцыст, крытык, перакладчык, этнограф нарадзіўся 29 верасня 1823 г. у фальварку Смольгаў Бабруйскага павета Мінскай губерні. Сыракомля – аўтар шасці кніг перакладзеных паэтаў-лацiністаў, двухтомнай "Гісторыі літаратуры ў Польшчы", некалькіх асобных выданняў гутарак-паэмаў, а таксама зборнікаў лірычных твораў. Шмат увагі надаваў падтрымцы творчасці землякоў на беларускай мове (В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі і інш.). Наважыўся сумесна з В. Каратынскім выдаць кнігу беларускамоўных вершаў, выявіўшы пры гэтым разуменне грамадскай патрэбы ў вывядзенні беларускіх твораў на самастойны шлях.

У фарным касцёле ў Нясвіжы, касцёле святога Яна ў Вільні, а таксама на доме ў Вільні, дзе ён памёр, усталяваныя памятныя шыльды. У Нясвіжы і Варшаве ёсць вуліцы, якія носяць яго імя. Імем У.Сыракомлі названая адна з сярэдніх школ у Вільні. Песні на словы паэта напісалі І. Залескі, С. Манюшка, С.Грушвіцкі і інш. Паводле паэмы "Маргер" К. Горскі стварыў аднайменную оперу. Скульптурны партрэт паэта зрабіў А. Шатэрнік.

Хведар Нюнька нагадаў пра Кастуся Шышэю, які быў актыўным удзельнікам у справах беларусаў Вільні, стаяў ля вытокаў Таварыства Беларускай культуры ў Літве, удзельнік эскадрона Барыса Рагулі, вязень ГУЛАГа. Ён памер 8 гадоў таму. У верасні яму споўнілася б 90 гадоў.

На заканчэнне сустрэчы старшыня беларускага прадстаўніцтва ў Літве сп. Алег Мяцеліца прэзентаваў канцэрты беларускіх гуртоў, якія адбудуцца ў кастрычніку ў Вільні.

*Зміцер Віленскі*

## БЕЛАРУСКАЯ ВЫШЫЎКА НА МІЖНАРОДНЫМ ФЕСТЫВАЛІ РУКАДЗЕЛЛЯ CREATIVFESTIVAL FALL-2012

Выстава-продаж мастацка-дызайнерскай кампаніі "Spirit of Belarus" адбылася на міжнародным Фестывалі рукадзелля CreativFestival Fall-2012 ў Таронта (Канада) 12–14 кастрычніка. Гэты фестываль праводзіцца двойчы на год у Таронта. Увосень 2012 год ён адзначаў сваё 25-годдзе. З нагоды юбілейнага святкавання была зладжаная выстава майстроў-дызайнераў вышыўкі Канады (Needlework Designer Line), у якой бралі ўдзел сябры Гільдыі канадскіх дызайнераў вышыўкі (Needlework Designers of Canada). Сярод іх асобным буцікам выстаўлялася кампанія "Spirit of Belarus".

Заснавальніцай беларускай мастацка-дызайнерскай кампаніі "Spirit of Belarus" з'яўляецца мастачка і пісьменніца Ірына Варабей, якая жыве ў Таронта. Ірына Варабей – вядомая ў Канадзе дызайнерка вышывальнага мастацтва. Большасць вышываных работ Ірыны выканана ў сучасных тэхніках, але ўсе яны заснаваныя на беларускіх вобразах і традыцыйных беларускіх арнаментах. Вышыўка – мастацтва спецыфічнае. Асноўная маса майстрых-аматарак вышывае паводле набытых схемаў, створаных іншымі дызайнерамі. Таму Ірына, паставіўшы за мэту прэзентаваць беларускую культуру для канадскіх ды амерыканскіх майстрых, не толькі робіць дысплэі са сваімі вышыванкамі, але і стварае схемы, якія можна набыць, каб вышыць такі ж узор для сябе.

Ірына Варабей з'яўляецца сябрам Канадскай асацыяцыі вышывальніц (Embroidery Association of Canada), а таксама сябрам Гільдыі дызайнераў вышыўкі Канады (Needlework Designers of Canada).

Пад брэндам «Spirit of Belarus» ейныя вышываныя работы публікуюцца ў канадскім часопісе рукадзельніц "A Needle Pulling Thread", супрацоўніцтва з якім пачалося з 2009 г., і ўжо дзесяць работ Ірыны разам з ейнымі артыкуламі-экскурсамі ў беларускую культуру апублікаваныя на старонках папулярнага ў Канадзе часопіса. Характэрна, што мэтай часопіса "ANPT" з'яўляецца прэзентацыя менавіта канадскіх дызайнерак, і гэта азначае, што работу беларускі Ірыны Варабей ён улучае ў сваю канадскую супольнасць.

Пад гэтым жа брэндам і пад эгідай часопіса калекцыя вышыванак Ірыны рэгулярна выстаўляецца на Фестывалях рукадзелля "CreativFestival». Гэты форум рукадзельніц, найбуйнейшы ў свеце, праводзіцца штогод у Таронта (Канада), на яго з'язджаюцца мастакі, дызайнеры, выкладчыкі, камерсанты з усяе Амерыкі ды Еўропы – усе, хто мае дачыненне да гэтага віду мастацтва.

Сёлета на юбілейным шоу Фестывалю кампанія "Spirit of Belarus" ладзіла сваю выставу-продаж асобным буцікам. Спонсарам выставы была Фундацыя Крэчэўскага.

*Ірына Аксёнава*

## СВЯТА БУЛЬБЫ Ў НОВАСІБІРСКУ

"Раз картошка, два картошка..." – радкі гэтыя знаёмыя нам яшчэ з дзяцінства і зрабіліся штодзённымі. А вось у Машкоўскім раёне Новасібірскай вобласці арганізавалі сапраўдны бульбяны фэст. Паколькі тут пражывае нямала беларусаў, свята назвалі з беларускім каларытам «Свята бульбы».

На плошчы перад Домам культуры свае кулінарныя здольнасці дэманстравалі і сібірскія гаспадыні, і беларускія. Наведнікі ўбачылі сапраўдныя мастацкія кампазіцыі з дароў восені і галоўнага з іх – бульбы. Няпроста было членам журы і ўсім, хто каштаваў стравы, вызначыць, што ж смачнейшае. Бульбяныя піражкі з грыбамі, цыбуляй, са шкваркамі або бульба-чарапаха, рабчык і нават бульба ў цяльняшцы, ну і, вядома, знакамітыя дранікі. Натуральна, усе былі адзначаныя ўзнагародамі і падзякамі.

Арганізатары свята наладзілі таксама конкурс на веданне гісторыі паходжання бульбы. Наведнікі свята пачулі шмат цікавага пра такую родную знаёмую бульбу. Даведаліся, што ў Беларусі бульба з'явілася ў XVII ст. і была спачатку вынаходніцтвам для панскага стала. Просты ж люд ставіўся да заморскага дзіва з недаверам, называючы яго землянымі яблыкамі. Паступова, спазнаўшы смак, народ пачаў лічыць бульбу другім хлебам. Ды і цяпер лічыць.

Бульба даўно ўвайшла ў беларускі фальклор, пра яе спяваюць песні, а папулярную беларускую польку можна лічыць сапраўдным гімнам бульбе.

Запрошаныя на свята госці з Беларусі, ацаніўшы бульбяныя далікатэсы тут, у Сібіры, яшчэ раз пераканаліся, што і ў Расіі ведаюць і любяць бульбу не менш, чым у Беларусі.

*Паводле Людмілы Бляўскай*

## ВА ЎРОЦЛАВЕ ПРАЙШЛІ ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

На мерапрыемстве выступілі Лявон Вольскі, Віктар Шалкевіч, гурт "Рэха" і іншыя.

"Кожны год ва Ўроцлаў прыязджаюць беларускія пісьменнікі, мастакі і музыкі, якія прадстаўляюць беларускую культуру. Гэта стала ўжо традыцыяй", — сказаў адзін з арганізатараў дзён беларускай культуры ва Ўроцлаве, кіраўнік "Беларускага дома" ў Варшаве Алесь Зарэмбюк.

З 11 па 14 кастрычніка ва Ўроцлаве праходзілі розныя канцэрты і дыскусіі прадстаўнікоў беларускай грамадзянскай супольнасці, а таксама польскай дыяспары ў Беларусі, адзначыў Алесь Зарэмбюк. "Быў мастак Алесь Марачкін, выступалі музычныя калектывы Віктара Шалкевіча, Лявона Вольскага і гурт "Рэха". На мерапрыемства прыйшло шмат палякаў — як звычайных жыхароў Уроцлава, так і прадстаўнікоў грамадскіх і палітычных колаў горада. У сваім звароце нас павітаў дэпутат Еўрапарламента Яцэк Пратасевіч. Прысутнічалі ваявода Ніжняй Сілезіі, адзін з лідараў польскай партыі "Права і справядлівасць" (PiS), адзін з заснавальнікаў "Саюза палякаў" у Беларусі, карэспандэнт "Рэчы Паспалітай", кіраўнік фонду "За нашу і вашу свабоду" Мікалай Іваноў, і іншыя палітыкі і грамадскія дзеячы".

Па словах Алеся Зарэмбюка, на мерапрыемстве прысутнічала вельмі шмат беларускай моладзі. "Было прыемна бачыць такіх адукаваных, актыўных і вясёлых маладых людзей. А на закрыцці дзён беларускай культуры ва Ўроцлаве за аўтографамі да Лявона Вольскага выстраілася цэлая чарга з беларусаў і палякаў".

"Атмасфера была фантастычнай. У нас, беларусаў, вельмі багатая культура, якую горача віталі ва Ўроцлаве. І гэта з улікам таго, што гэта альтэрнатыўная культура, якую не падтрымлівае дзяржава. У наступным годзе мы зноў правядзем дні беларускай культуры ва Ўроцлаве, у абноўленым фармаце", — сказаў Зарэмбюк.

*nn.by*

## ДЗЁННІК ДЗМІТРЫЯ СЯМЁНАВА

Вельмі ўраджайным гэты год выдаўся для даследчыцы беларускай эміграцыйнай культуры Наталлі Гардзіенкі. Нядаўна пад яе рэдакцыяй выйшаў том паэзіі Янкі Юхнаўца. Неўзабаве выйдзе зборнік фельетонаў і прозы Лявона Савёнка. А цяпер яна рыхтуе да друку дзённік Дзмітрыя Сямёнава, дзе апісваецца беларускае культурнае жыццё ў акупаваным Мінску.

Наталля Гардзіенка: "У серыі "Бібліятэка беларускага гістарычнага агляду" выйдзе вельмі цікавы дзённік Дзмітрыя Сямёнава. Гэта дзённік, які пісаў малады чалавек, потым ён апынуўся на эміграцыі. Дзённік датычыць 1943–1947 гадоў, то бок аўтар жыў у акупаваным Мінску. Ён тут вучыўся, працаваў у гістарычным музеі разам з Антонам Шукелойцам, удзельнічаў у эвакуацыі гэтага музею. І апісвае гэтыя падзеі".

У дзённіку паказваецца, як беларускія дзеячы культуры апынуліся ў эміграцыі, а таксама беларускае жыццё ў лагерах для перамешчаных асоб у Заходняй Еўропе. Нямала старонак у дзённіку прысвечана славутай беларускай паэтцы Наталлі Арсенневай".

*racyja.eu*

# У Сібіры прайшоў фестываль цымбалістаў і бандурыстаў

У верасні ў Доме нацыянальных культур ім. Г. Завалокіна адбыўся 1-ы адкрыты фестываль цымбалістаў і бандурыстаў у Сібіры.

“Спраўдзілася мая даўняя мара, – расказвае дырэктар дзяржаўнага Новасібірскага цэнтра беларускай культуры Ніна Васільеўна Кабанава. – Яшчэ на святкаванні дзесяцігоддзя цэнтра два гады таму сярод шматлікіх гасцей была запрошаная з Краснаярска майстар гульні на цымбалах Надзея Івашчанка. Меладычныя гукі гэтага інструмента ўжо тады літаральна скарылі гледачоў. І падумалася: а чаму б і ў Новасібірску не загучаць цымбалам? Тым больш што дзіўны гэты інструмент нам нядаўна падарыў Беларускі рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, а граць на ім не было каму.

І мы зрабілі першы крок. А калі паглядзець шырэй, то, вядома, хацелася, каб была яшчэ большая цікавасць сібіракоў да беларускай культуры.

Для пачатку арганізавалі семінар. З радасцю адгукнуліся кіраўнікі танцавальных і музычных калектываў не толькі з раёнаў і гарадоў нашай вобласці, але і суседзяў – Цюмені, Томска і Барнаула – каля 30 чалавек. Удзельнічаць у семінары выказаў жаданне і ўкраінскі моладзевы цэнтр, які ўзначальвае Сяргей Піліпенка, ён сабраў бандурыстаў. Бо і цымбалы, і бандуру аб'ядноўвае многае: абодва інструменты шматструнныя, маюць аб'ёмны гук і падобны прынцып ігры. Хоць да гэтага часу ідуць спрэчкі аб паходжанні цымбалаў, усё ж традыцыйна лічыцца гэты інструмент беларускім, а бандура – украінскім.

Для правядзення семінара мы запрасілі высакакласных спецыялістаў з Магілёва. Майстар-клас праводзіла заг. кафедры народных інструментаў Магілёўскага філіяла Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Аксана Кузняцова”.

Для Тамары Грыгор'евай цымбалы не ў навінку. Яшчэ будучы студэнткай Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі яна была запрошаная ў знакаміты Дзяржаўны народны аркестр Беларусі імя Жыновіча. У Цюмені, дзе Тамара апынулася разам з мужам-вайскоўцам, яна працягвае прапагандаваць беларускую музычную культуру. Арганізавала і кіруе моладзевым ансамблем беларускай песні “Палессе“, навучыла свой калектыў ігры на цымбалах, сама выступае з сольнымі канцэртамі. Так што на семінары яна і сама шмат што спасцігла, і магла падзяліцца вопытам ігры на цымбалах.

Пакуль у адных класах ішлі музычныя заняткі, у іншых спасцігалі мастацтва харэаграфіі танцоры. Праводзіў майстар-клас балетмайстар беларускага народнага калектыву фольк-шоу-балет ”Альянс“ Аляксей Лукашэвіч. Лілія Сулейка, выпускніца факультэта народнай харэаграфіі Алтайскай акадэміі культуры і мастацтва, займаецца з дзецьмі з шасцігадовага ўзросту. І цяпер у сябе ў Барнауле Лілія папоўніць рэпертуар свайго калектыву, дадаўшы да рускіх “Матрошак“ беларускія народныя танцы “Крыжачок“ і “Кросны“.

За круглым сталом кіраўнікі і ўдзельнікі семінара адзначылі неабходнасць і мэтазгоднасць падобных творчых акцый. Аднадушнае меркаванне – стварыць адзіны навучальны цэнтр навучання на цымбалах, бандуры, харэаграфіі.

Працоўныя будні завяршыліся вялікім святам – фестывалем, дзе танцоры і музыканты паказалі сваё майстэрства не толькі адзін перад адным, але і перад гледачамі. І беларускія цымбалы, і ўкраінская бандура загучалі на поўную сілу. Аксана Кузняцова – дарэчы, лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў – віртуозна выканала кампазіцыю на тэму народных мелодый у апрацоўцы Жыновіча. А ў выкананні Тамары Грыгор'евай прагучаў “Славянскі Вянок“ з беларускіх і ўкраінскіх песень.

Цымбалы змяняла бандура, і па рэакцыі гледачоў было бачна, што гэтыя меладычныя нацыянальныя інструменты прыйшліся ўсім да душы і прыжывуцца ў Сібіры. Асабліва ўдзячнымі сярод гледачоў былі ветэраны. Шмат хто аказаўся з беларускімі і ўкраінскімі каранямі, і мелодыі, памятныя з дзяцінства, выклікалі ў іх слёзы замілавання.

У Новасібірскага дзяржаўнага цэнтра беларускай культуры нямала пасапраўднаму цікавых справаў. Штогод на вясновы фестываль-конкурс (сёлета ўжо шосты!) злятаюцца бусляняты – юныя артысты з многіх сібірскіх гарадоў і вёсак; традыцыйнымі сталі “Лявоніха“, фестываль беларускай саломкі і іншыя. Хочацца верыць, што і гэтае звонкае свята будзе традыцыйным. Далучайцеся!

*Паводле Людмілы Бяляўскай, Новасібірскі дзяржаўны цэнтр беларускай культуры*

# Выстава да 100-годдзя Максіма Танка ў Варшаве

Адкрыццё выставы, прысвечанай юбілею 100-годдзя Максіма Танка, прайшло ў Культурным цэнтры Беларусі ў Варшаве 27 верасня. Прэзентаваныя фотаздымкі і матэрыялы дазволілі пазнаёміцца не толькі з літаратурнай спадчынай паэта, але і ягонай грамадска-палітычнай дзейнасцю.

З беларускага боку ў мерапрыемстве ўзялі ўдзел Пасол Беларусі ў Польшчы В. Гайсёнак, старшыня Грамадскага аб'яднання “Беларускі фонд культуры” У. Гілеп, старшыня Таварыства “Беларусь – Польшча”, пісьменнік А. Бутэвіч, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Л. Макарэвіч, загадчыца навуковага-экспазыцыйнага аддзела музея В. Гулева, беларускія дыпламаты.



Пра падрабязнасці выставы распавядае Вольга Гулева, загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры: “Што датычыцца нашай выставы, вы не ўяўляеце, наколькі заўсёды складана выбраць такую назву, каб яна адпавядала менавіта гэтаму, а не іншаму чалавеку. І што датычыцца назвы выставы – ”Гартаючы жыццяя свайго старонкі“ – гэта словы самога Максіма Танка, прычым гэта словы з аднаго з апошніх вершаў, які быў напісаны ў 1993 годзе, калі ён ужо быў сталым чалавекам. А яго не стала ў 1995 годзе. І ў пэўным сэнсе гэты верш – падвядзенне вынікаў пройдзенага шляху – і жыццёвага, і творчага”.

Выстава арганізавана Пасольствам Беларусі ў Польшчы, Культурным цэнтрам Беларусі ў Польшчы пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

*Паводле racyja.eu, Пасольства РБ у Польшчы*

# НАДАДЗЕНЫ СТАТУС ПОМНІКАЎ МЯСЦІНАМ ПАЎСТАННЯ 1863 ГОДА

Беларуская рэспубліканская навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры задаволіла прапановы Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры па наданні статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці мясцінам, звязаным з нацыянальна-вызвольным паўстаннем 1863–1864 гадоў супраць расійскага царызму. Гэтыя прапановы былі распрацаваныя і пададзеныя таварыствам у межах агульнанацыянальнай кампаніі "Будзьма беларусамі".

Як паведаміў карэспандэнту "Новага часу" старшыня таварыства Антон Астаповіч, напярэдадні 150-годдзя паўстання "За Вашу і нашу свабоду", якое будзе адзначацца ў будучым годзе, статус помнікаў гісторыі мясцовага значэння набылі магілы паўстанцаў у Косаве і Плябані, а мемарыялу на месцы бітвы пад Мілавідамі нададзены статус помніка гісторыі нацыянальнага значэння.

Першая магіла знаходзіцца на рыма-каталіцкіх могілках горада Косава Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Актыўныя баявыя дзеянні вяліся на тэрыторыі Слонімскага павета Гродзенскай губерні, у тым ліку і ў ваколіцах Косава. Парафіянамі мясцовага Свята-Траецкага касцёла былі пахаваныя тры ўдзельнікі паўстання – Лукашэвіч, Красінскі і невядомы інсургент, загінулыя ў сутычцы з карнікамі. У 1928 годзе ў гонар 10-годдзя адраджэння Польшчы на магіле ўсталяваны гранітны крыж на гранітным чатырохвугольным у плане двух'ярусным абеліску. Крыж па перыметры абнесены бетоннымі гранёнымі слупкамі з агароджай паміж імі ў выглядзе паралельна замацаваных металічных трубаў.

Другая магіла месціцца ў канцы галоўных прысадаў на старых рыма-каталіцкіх могілках вёскі Плябань Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. На магіле, абмураванай каменем, стаіць валун. На ім – сляды шыльды з памятным тэкстам. За каменем – драўляны чатырохканцовы лацінскі крыж. У магіле пахаваныя кіраўнік паўстання на Маладзечаншчыне і Вілейшчыне Юльян Бакшанскі з аднадумцамі Рафалам Малішэўскім, Людвікам Ямантам, Леапольдам Панькоўскім і пятнаццацігадовым гімназістам Сулістроўскім. Апошні бой яны прынялі каля тутэйшае вёскі Свечкі 4 сакавіка 1863 года. Бакшанскі нарадзіўся ў 1824 годзе ў маёнтку Тупальшчына пад Смаргонню ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, удзельнічаў у тайных гуртках. За захаванне забароненай літаратуры ў 1841 годзе арыштаваны і сасланы ў Разанскую губерню. У пачатку 1846 года вярнуўся на радзіму. У 1847 годзе звярнуўся з адозвай "Да смаргонскіх сялян!", у якой заклікаў аб'яднацца з гарадской беднатой і салдатамі, выступіць супраць паноў, чыноўнікаў і афіцэраў. План паўстання не ўдаўся. Бакшанскага арыштавалі і прыгаварылі да 12 гадоў катаргі, якую ён адбываў у Нерчынску да 1858 года. У 1863 годзе арганізаваў у Вілейскім павеце паўстанцкі атрад (25 чалавек). 4 красавіка 1863 года атрад у сутычцы з урадавымі войскамі быў разбіты. На магіле паўстанцаў у 1921 годзе быў пастаўлены помнік, заменены валуном напрыканцы 1980-х – напачатку 1990-х гадоў.

Мемарыял на месцы Мілавідскай бітвы 22 мая (3 чэрвеня) 1863 года (крыж і памятная капліца) знаходзіцца за пяць кіламетраў на захад ад вёскі Мілавіды, побач з вёскай Каўпакі Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. На гэтым месцы каля 800 інсургентаў са Слонімскага, Ваўкавыскага, Пружанскага, Навагрудскага і Гарадзенскага паветаў, на чале з Францішкам Юндзілам, Ісідарам Лукашэвічам і Аляксандрам Лянкевічам, пад камандаваннем Кастуся Каліноўскага біліся з карнікамі, якія страцілі 50 чалавек забітымі і параненымі. У аддзеле Лянкевіча (Лягдара) змагаліся рэшткі Лідскага аддзела Людвіка Нарбута, у тым ліку паэт Францішак Багушэвіч і мастак Міхал Андрыёлі.

У 1913 годзе загінулым царскім жаўнерам расійскія ўлады ўсталявалі наўзбоч дарогі, што падзяляе поле бітвы, праваслаўны шасціканцовы чыгунны крыж, упрыгожаны стылізаваным раслінным арнаментам і промнямі. У верхнім перакрыжаванні – надпіс кірыліцай "ІНЦІ". Крыж усталяваны на мураваным абеліску, які, у сваю чаргу, стаіць на двухпрыступкавым пірамідальным падмурку. Тэрыторыя вакол крыжа абмежавана агароджай са зварных металаканструкцый.

Да 70-годдзя паўстання ў 1933 г. польскі ўрад насупраць крыжа ўзвёў капліčку ў стылі неакласіцызму. На квадратным у плане цокалі ўсталяваны 4 калоны, якія нясуць пліту, антаблемента. Завяршае капліцу паўсферычны купал з ажурным крыжам. У дэкоры выкарыстаны архітэктурныя заломы. Унутраная прастора абмежавана міжкалоннымі арачнымі прасценкамі. У філёнках цоколя – памятныя надпісы. Тэрыторыя вакол капліцы абмежавана гранёнымі нізкімі слупкамі з металічнымі ланцугамі.

*"Новы час"*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІСТАПАД 2012 ГОДА

1 лістапада – 100 гадоў таму ў в. Лучнікі (цяпер Слуцкі р-н) нарадзіўся Янка Золак (сапр. Антон Даніловіч; 1912–2000), паэт, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

1 лістапада – 20 гадоў таму, у 1992-м, у Мінску адбыўся Устаноўчы сейм Згуртавання беларускай шляхты (ЗБШ).

2 лістапада – 85 гадоў таму ў Мінску нарадзіўся Міхась Раецкі (1927–2003), журналіст, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

3 лістапада – 130 гадоў таму ў засценку Акінчыцы (цяпер у межах Стоўбцаў) нарадзіўся Якуб Колас (сапр. Канстанцін Міцкевіч; 1882–1956), народны пісьменнік Беларусі.

4 лістапада – 125 гадоў таму ў г. Капыль нарадзіўся Цішка Гартны (сапр. Зміцер Жылуновіч; 1887–1937), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, дзяржаўны дзеяч БССР, гісторык, пісьменнік, публіцыст.

4 лістапада – 20 гадоў таму ў Мінску памёр Васіль Хомчанка (1919–1992), пісьменнік.

5 лістапада – 15 гадоў таму памёр Святаслаў Коўш (1916–1997), рэлігійны дзеяч, пісьменнік, святар Беларускай праваслаўнай царквы пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскага патрыярхату, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША).

6 лістапада – 125 гадоў таму на хут. Заполле (цяпер Слуцкі р-н) нарадзіўся Радаслаў Астроўскі (1887–1976), грамадска-палітычны дзеяч, педагог, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады (1944–1945, 1947–1976), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША.

13 лістапада – 70 гадоў таму памёр Уладзіслаў Талочка (1887-1942), рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, культуролаг, гісторык, літаратуразнавец. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

14 лістапада – 200 гадоў таму, у 1812-м, у в. Крошын (цяпер Баранавіцкі р-н) нарадзіўся Паўлюк Багрым, паэт. Памёр каля 1891 г., пахаваны на радзіме.

15 лістапада – 105 гадоў таму ў Галіцыі памёр Юзаф Каліноўскі (1835–1907), каталіцкі рэлігійны дзеяч, удзельнік паўстання 1863–1864 гг., пазней кананізаваны.

15 лістапада – 25 гадоў таму памёр Рыгор Зыбайла (1913–1987), палітычны і вайсковы дзеяч, сябар ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі, афіцэр Беларускай Краёвай Абароны, вязень ГУЛАГа.

16 лістапада – 30 гадоў таму памёр Андрэй Макаёнак (1920–1982), драматург. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

20 лістапада – 90 гадоў таму ў Клецку нарадзіўся Уладзімір Кісель (1922–1999), удзельнік падпольнай арганізацыі "Саюз Змагання за Незалежнасць Беларусі", вязень савецкіх канцлагераў і турмаў.

**Беларусы ў свеце**
№10(126), кастрычнік 2012

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не
супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і
вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27